

# Nr. 3, 1923

## „Rimon“ / “Гранат“

# Пра магілёўскую сінагогу

(успаміны)

Гэта было паміж 19.. і 1916. Не так ужо й шмат для каляндара, аднак для жыцьця – некалькі эпохаў таму.

Некаторыя першыя яўрэйскія мастакі распаўсюдзілі сваё майстэрства нават да ўсходняй межы "рысы аседласьці" і давялі, што калі вадзіць па паперы алоўкам ці вуглём, альбо па халсту пэндзалем ці фарбай – атрымліваецца карціна. І моладзь пачала "маляваць". Яны пачалі навучацца ў гуртах, з гуртоў пайшлі "школы", і перш за ўсё - праблемы.

Вучні хэдэраў, хаця ўжо цэлае пакаленьне не дасягнула да вывучэньня Талмуда, тым не менш былі перанасычаныя кісьлявым прысмакам аналізу.

І мы, ўсяго толькі алоўкі ды пэндзалі, хутка пачалі анатаміраваць не толькі прыроду вакол нас, але і саміх сябе. Што і хто мы ёсьць? Якое месца займаем мы сярод народаў? І што ёсьць нашая культура? І якім павінна быць нашае мастацтва? Усё гэта распачалася ў некаторых мястэчках Літвы, Беларусі, Украіны, адтуль дакацілася да Парыжу, і ў апошнія годы – а не ў першыя, як мы тады меркавалі – гэты рух трапіў у Маскве на "Першую выставу яўрэйскіх мастакоў у 1916 годзе".

У пошуках саміх сябе, у пошуках вобразу нашага часу, мы спрабуем зазірнуць у старае люстэрка, каб даследваць сябе праз адкрытае такім чынам "народнае мастацтва". Гэты шлях на пачатку нашага часу прайшлі амаль усе народы.

Такім чынам вы маеце перад сабой лагічнае тлумачэньне таго, чаму аднойчы ўлетку я накіраваўся "ў народ", са мной разам быў Рыбак.

Пра магілёўскую сінагогу хадзілі лягенды. Мы даверыліся ім і накіраваліся дняпроўскім шляхам. Спачатку спыніліся ў Капусьце (Копысь). Нам казалі, што капусцкая сінагога належыць да такога сама тыпу, што і магілёўская, і была размаляваная тым самым майстрам. У Капусьце мы знайшлі аднак толькі трошкі вугалю, абгарэлую цэглу падмуркаў і некалькі ўжо пачаўшых загніваць бэлек, якія нехта ахвяраваў на будаўніцтва новай сінагогі – старая згарэла. І ўсё мястэчка згарэла, і не засталося ніякіх сьлядоў даўніны.

Мы паехалі далей. Трапілі ў Магілёў, і здалёк, каля Дняпра ўбачылі чорны дом, падобны на хлеў, высокі, невялікі будынак – сінагогу. Толькі гэта ж нешта накшталт прадмесьця. Гэта не можа быць ТАЯ сінагога. Мы сышлі на бераг і завярнулі ў горад – на пошукі. Мы накіраваліся да некаторых новых, мураваных, “прыгожых” сінагог, з будуарнымі лямпамі і сьвежа пафарбаванымі памяшканьнямі і рамамі, як у правінцыяльным “Ілюзіёне”.

Праз некалькі гадзін мы яе знайшлі. Сінагога стаіць каля самага Дняпра, аднак у такім “гаршчку”, што яна цалкам схаваная. І гэта неверагодна. Сінагогі звычайна разьмяшчаюць такім чынам, каб яны дамінавалі над навакольным ландшафтам. Як, напрыклад, у Друе, у Дуброўне і ў іншых мястэчках: сінагога з усёй сваёй масай, і асабліва з дахам, дае ўсяму мястэчку той характэрны профіль, падобна таму, як характар старых эўрапейскіх гарадоў вылучаецца праз іх вежы і саборы (катэдры).

Стыль сінагог магілёўскага тыпу (дакладнага, выразнага, я бы сказаў: клясічнага тыпу) аналягічны стылю хрысьціянскіх базылік, то бок – сярэдняя частка высокая, з вокнамі ўверсе, два нізкіх крыла з бакоў на поўначы і поўдні. Аднак ў адрозьненьні ад цэркваў бакавыя часткі не адкрытыя, але абсалютна аддзеленыя ад цэнтру, ад мужчынскай сінагогі. У крылах знаходзіцца жаночая сінагога, і толькі вузкая шчыліна вышэй вачэй аб’ядноўвае яе з мужчынскай часткай. Гэта старажытны стыль. Падобны мы бачылі на малюнках аднаго з нешматлікіх відокаў найстарэйшай сінагогі ў Нямеччыне (XIII стагодзьдзя) у Вормсе. Таксама і там мужчынская і жаночая сінагогі былі на адным паверсе, і ў сьцяне паміж імі акенца. Каля гэтага акенца звычайна стаяла тая, што паўтарала за хазанам малітвы, і ўжо за ёй іх паўтаралі астатнія жанчыны, якія маліліся. На могілках у Вормсе ёсьць надмагільле XIV стагодзьдзя адной гэткай “суфлёркі”.

Жаночы балькон зьяўляецца больш позьней вынаходкай. Цяпер таксама і ў Магілёве ўжо пабудаваны балькон для жанчын, а бакавыя крылы занятыя: у адным – шамаш, токар, які дакладна калісь спаліць у агні ўсю сінагогу праз свае стружкі і грубкі; у другім – хэдэр. Аднак увесь характар сінагогі складае яе вышэйшая сярэдняя частка з яе высокім вострым дахам і тыя з дзьвух бакоў прыціснутыя да яе два крылы са скошанымі дахамі і маленькімі акенцамі.



Дэталь роспісаў магілёўскай сінагогі з відокам Вормса. Паўночна-ўсходні бок. 18-е ст.



Дэталь роспісаў магілёўскай сінагогі з подпісам аўтара. Заходні бок. 18-е ст.

Удзень сінагога зачыненая. Мы адшукалі шамаша, і ён адкрыў нам.

Не, гэта было крыху інакш, чым тое першае зьдзіўленьне, якое я атрымаў ад наведваньня ў раманскую базыліку, у гатычную капліцу, у барочныя цэрквы Нямеччыны, Францыі, Італіі. Зараз, калі дзіця прачнецца ў сваёй калысцы, што цалкам накрытая вэлюмам, на якім сядзяць мухі і матылькі, і ўсё гэта залітае сонцам, то гэта будзе выглядаць падобным на тое, што мы пабачылі цяпер.

Сьцены – драўляныя, бэлькі – дубовыя, зыходзячы з гуку пры пастукваньні. Над сьценамі столь падобная на шацёр з дошак, швы ўсе бачныя, без падману, ніякай фантазіі ва ўсёй працы столь-майстра ад верху да нізу. Аднак увесь аб'ём яе падзелены мастаком на часткі і гэтак запоўнены некалькімі простымі фарбамі, што там жыве цэлы вялікі сьвет і бліскае, і льецца ў гэтай невялічкай прасторы.

Уся невялікая плошча сінагогі размаляваная пачынаючы ад сьпінак лаваў, гэта цягнецца па ўсёй вышыні сьцен да самай вершыні купала. Сінагога, чатырохкутная ўнізе, пераходзіць уверсе ў васьмікутную купалападобную столь ва ўсім падобную да ярмолкі. Трохкутные панэлі маскіруюць пераход ад чатырохкутніка ў васьмікутнік. Сьцены і столь падзеленыя на часткі з велізарным пачуцьцём кампазіцыі. Гэта нешта цалкам процілеглае прымітывізму, гэта плён высокай культуры. Адкуль яна паходзіць? Майстар гэтай працы – Сегал, кажа ў сваім подпісе, поўным высакароднейшага захапленьня: “... ужо шмат год, як я хаджу па сьвеце жывых...”

Пра яго кажуць, што ён размаляваў тры сінагогі, у Магілёве, Капусьце і ў Долгінаве (хтосьці называе нейкае іншае месца). Пасьля таго, як ён скончыў працу, ён зваліўся з рыштаваньня і загінуў. Падобнае распавядае кожнае мястэчка пра сябе: магілёўцы кажуць, ён памёр у Магілёве, капусцы – у Капусьце, долгінаўцы – ў іх. Астатнія дзьве сінагогі згарэлі. Долгінаўская ўжо даўно. Мой бацька звычайна распавядаў, што ён успамінае адтуль велізарную фрэску пахаваньня Якава, з калясьніцай, конямі, сынамі Якава, егіпцянамі і г.д. Мы сёньня не можам праверыць, аднак гісторыя зьяўляецца характэрнай для ацэнкі майстра, – яго твор настолькі вялікі, што далейшае жыцьцё майстра магло б яго толькі прынізіць. Твор завершаны, і душы няма больш чаго рабіць у целе.

Цэнтральным пунктам усяго зьяўляецца столь. На заходнім баку, над уваходам, стаяць велізарныя ільвы і павы за імі. Ільвы трымаюць дзьве шыльды з надпісамі, ніжняя ў памяць аб самім майстры. Затым на трох паўночных і трох паўднёвых народнай творчасьці. І ці гэта не твар равіна на той львінай галаве з малюнка сузор'еў у магілёўскай сінагозе?

Над фрызам расквітаюць велізарныя расьлінныя арнаменты, якія колам ахопліваюць усю



Дэталь роспісаў магілёўскай сінагогі з караблём. 18-е ст.

панэлях купала знаходзіцца нешта накшталт фрызу, на якім разварочваецца жыцьцё пажыральнікаў і тых, каго пажыраюць. Унізе – вада. На ёй зямля, а па-над зямлёй – неба, у небе зоры, зь якіх расквітаюць кветкі. У вадзе – рыбы; іх ловяць птушкі. На зямлі ліс цягне ў роце птушку. Мядзьведзь лезе на дрэва за мёдам. Птушкі трымаюць у дзюбах зьмей. Усе яны, тыя, што лятаюць, і тыя, што бегаюць – ёсьць людзы. Праз свае чатырохлапыя ці птушыныя маскі яны глядзяць чалавечымі вачыма, гэта зьяўляецца вельмі адметнай рысай яўрэйскай столь. Яшчэ вышэй шэраг адбіткаў хутчэй усходняй, я бы сказаў: маўрытанскай кампазыцыі, а на іх складанае перапляценьне вяровак – матыў, які вельмі нагадвае малюнак Леанарда-да-Вінчы на пячатке яго акадэміі. І цяпер я ўзгадваю, што я бачыў у Мілане, у Кастэло, зал, столь якога была таксама распісаная Леанардам такскама падобным вяровачным арнаментам.

Над ім стаяць, выстраіўшыся ў шэраг, сузор'і. 12 кампазыцый у колах, якія замыкаюцца ў адное цэлае. Карціна сузор'еў надта своеасаблівая, і



“Леў” з роспісаў магілёўскай сінагогі. 18-е ст.

некаторыя з яе малюнкаў зьяўляюцца на дзіва лаканічнымі і выразнымі. Вось напрыклад стралец. Усяго толькі дзьве рукі, адна трымае лук, другая нацягвае цеціву. Гэта “моцная рука”, “караючая рука” з Бібліі. І над усім, у цэнтральнай кропке “ярмолкі” – трохгаловы арол: сумесь рускага і польскага арлоў.

На ўсходзе, над арон а-кодэш, зноўку ільвы, толькі тут яны трымаюць ужо скрыжалі, і ад іх на арон а-кодэш спускаецца вялікае покрыва. Па баках знаходзяцца два пано, – зьлева, на паўночнай сьцяне “Вормс”, нейкі праклятый горад ахоплены нейкім драконам, і дрэва жыцьця. На другім баку, на паўднёва-ўсходнім – Ерусалім і дрэва спазнаньня.

На трохкутніках, якія хаваюць пераход ад сьцен да столі, на адным зь іх, на паўночна-заходнім, бык; на другім, паўночна-ўсходнім, горная каза; на трэцім, паўднёва-ўсходнім, левіяфан; і на чацьвёртым, паўднёва-заходнім, слон з паланкінам на сьпіне.

На сьценах – панэлі з надпісамі, сьвятыя прылады з Храма цара Саламона, арнамент і розныя жывыя істоты.

Скарбніца формаў у мастака – невычэрпная. І бачна, як усё гэта льецца ў яго, нібыта з рогу дастатку, і нібыта рука віртуоза не стамляецца адразу і не спыняецца ад хуткасьці яго задумак. З адваротнага боку арон а-кодэша я знайшоў першы накід пэндзалем, “контур” усяго роспісу, тое, што служыць асновай для далейшай фарбавай апрацоўкі. Гэты “контур” быў зроблены на сьцяне мастаком грандыёзнага майстэрства, пэндзаль якога цалкам падпарадкаваны яго волe.

Колер роспісаў – бурштынава жамчужны з цагляна чырвонымі іскрамі. Яго не магчыма спасьцігнуць, ён жыве і рухаецца дзякуючы спецыфічнаму зьзяньню. На ўсіх чатырох сьценах маюцца вокны ў самай вышыні. Сонца ідзе па кругу і кожную гадзіну па рознаму асьвятляе кожную сьцяну, і асабліва нахіленные часткі столі. Гэта надае ўсёй кампазыцыі бясконцае граньне. Роспісы, пры ўсёй сваёй парзрыстасьці, вельмі тоўстыя, пераважаюць цяжкія фарбы: вохра, сьвінцовыя бялілы, цынобры, зялёны. І зусім няшмат халаднаватых колераў, сіняга і фіялетавага.

Адкуль аднак бярэцца тут гэты струмень? Дзе напіталіся гэтыя аблокі, каб выліцца гэткім фантастычным дажджом?

Дасьледчыкі мусяць шукаць і лазіць паўсюль у моры гісторыі мастацтва, я ж магу толькі падзяліцца наступным, заўважаным мной, фактам. У сінагозе заўсёды маецца невялічкая бібліятэка. У старых сінагогах у кніжных шафах стаяць гемары і іншыя кнігі самых старых друкаў, з багатымі тытульнымі старонкамі і некалькімі ўпрыгожваньнямі і завяршальнымі малюнкамі. Тут некаторыя старонкі гралі ў свой час аналягічную ролю, як сёньня ілюстраваныя часопісы, яны знаёмілі з найновымі

формамі мастацтва. І гэта так і ёсьць. Я бачыў аднойчы надмагільле з наступным тыпам барэльефу: мядзьведзь стаіць на задніх лапах, а вакол цягнецца яскравы акантовачны арнамент. У шматлікіх кнігах амстэрдамскага друку 16-га і 17-га стагодзьдзяў на гарышчы друйскай сінагогі я бачыў завяршальны малюнак з такім самым матывам, і няма ніякага сумневу, што скульптар таго надмагільля натхніўся гэтым малюнкам.

Другі прыклад: разьба і цалкам кампазіцыя шматпавярховых арон а-кадэшаў і рэнесансава-барочныя тытульныя старонкі яўрэйскіх кніг. Яўрэйскім разьбарам гэтыя тытульныя старонкі служылі ўзорам, таксама як архітэктарам працы Віньёлы і Паладзія.

Застаецца толькі пытаньне пра нацыянальны момант гэтага жывапісу. Мы пакінем яго псыхолагам і этнографам. Мы толькі хочам зьвярнуць іх увагу на тое, што падабенства формаў, якія паводле пэўных законаў раскіданыя па сьценах і столі магілёўскай сінагогі, да формаў, якія выкарыстоўваліся іншымі народаў таго часу, павінна абавязкова разглядацца з асаблівай асьцярожнасьцю. Італьянец Фіёраваньці распісваў крамлёўскі Успенскі сабор, і яго суайчыньнік Алоізі – сам крэмль. Фінікіец Хірам пабудаваў цару Саламону Храм. Падобныя сьведчаньні можна прыводзіць бясконца.

Такім чынам на сёняшні дзень, калі знакам культурнага народу служыць надрукаваная літаратура, газеты і часопісы, уласны тэатар, уласны жывапіс, музыка і т.п. – мы таксама маем усё гэта, што азначае – мы таксама зьяўляемся культурным народам. Не дастае толькі бліскучага пасьведчаньня. Аднак калі для гэтага пачынаюць капацца ў мінулым, і калі цікаўнасьць да “народнай творчасьці” тлумачыцца адным толькі гэтым, то нам лепш ужо і без гэтай культуры. Ня трэба.

І калі на сёняшні дзень, калі тэхніка капіраваньня паднялася так высока, і друкавальныя машыны працуюць хутка, падобныя рэчы хочуць дасягнуць найшырокага распаўсюду, і яны хочуць атруціць “мастакоў”, і яны хочуць пачаць пудрыць і стылізаваць ужо калісь вядомыя аблічча, хочуць рассекчы іх на шматкі і дадаць у гэты вінегрэт як новую культуру мастацтва, – то нам лепш ужо і без гэтай культуры. Ня трэба.

Тое, што называецца мастацтвам, ствараецца тады, калі чалавек ня вядае, што тое, што ён робіць, ёсьць мастацтва. Толькі тады яно застаецца помнікам культуры. Сёньня ж мастацтва ствараюць тыя, што змагаюцца супраць яго.

Жывы сабака нам даражэй за мёртвага льва. Бо мы ведаем, што калі памрэць сабака, яна стане ільвом.

Э. Л. (пераклад Давіда Лісоўскага)



“Леў”, знак задыяку з роспісаў магілёўскай сінагогі. 18-е ст.



Дэталь роспісаў сінагогі ў Магілёве на Дняпры. 18-е ст.